***Боль Чарнобыля ў Менску***

# Зноў не абышлося без ахвяраванняў крывёю

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

гэта быў — жанчыны, падлеткі ці пажылыя. На асфальце з'явіліся крывавыя плямы. Падалі людзі з разбітымі тварамі. Вядомаму мастаку Аляксею Марачкіну да крыві рассеклі твар, заплыло правае вока. Білі журналістаў, у тым ліку замежных. Хаця многіх і ахапіў шок ад падзеяў, людзі станавіліся нібы апантанымі і не адступалі. На месца пабітых накатваліся новыя хвалі. Напэўна, камандзіры «абаронцаў парадку» зразумелі, што супрацьстаяць такому чалавечаму мору можна хіба танкамі і кулямётамі, таму нарэшце спецназаўцы расступіліся і калона рушыла далей. Калі ўлічыць, што па шырыні праспекта ў адзін шэраг ішло не меней 150—200 чалавек, а такіх шэрагаў толькі ў галоўнай калоне было не меней 5 тысяч, можна прыкінуць, колькі знаходзілася людзей. Тым не меней падтрымліваўся добры парадак дзякуючы ўмелым дзеянням маладзёжнай патрыятычнай арганізацыі «Белы легіён» і украінскіх сяброў з УНА—УНСО.

Усё ж спецназаўцы ўчынілі нявeдама чаму новае сутыкненне з дэманстрантамі ў раёне Нямігі, дзе зноў пралілася кроў і паплыў атрутны газ...

У прамовах на мітынгу адчуваўся чарнобыльскі боль і рашучасць актыўна супрацьстаяць нацыянальнай бядзе. Выступалі Лявон Баршчэўскі, Юрый Хадыка, дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі Генадзь Карпенка, Станіслаў Багданкевіч, Павел Знавец, цёпла быў сустрэты прысутнымі Зянон Пазьняк.

Гарэлі свечкі, нібы душы загінуўшых ад радыяцыі. Мітынг у рэзалюцыі выказаў пратэст супраць палітыкі, накіраванай на прымяншэнне памераў небяспекі ад радыяцыі, патрабаванне ад Расіі як пераемніцы СССР кампенсацыі нашаму народу страт, нанесеных ад бязглуздай гульні з атамам імперскіх кіраўнікоў.

А пасля па ўсяму Менску пачалося сапраўднае паляванне на ўдзельнікаў мітынгу. Асноўны крытэрый, па якому хапалі людзей, была беларуская гаворка. Як паведаміў на прэс-канферэнцыі ў сядзібе БНФ дацэнт Політэхнічнай акадэміі Мікола Анцыповіч, спецназаўцы ні слова не разумелі па-беларуску і сыпалі, збіваючы людзей, адборным рускім матам. Хутчэй за ўсё гэта былі тыя расійскія вайскоўцы, якіх, па звестках СМІ, прывезлі з Расіі. Відаць, яны вырашылі перадаць тутэйшым спецназаўцам свой досвед па «зачыстцы» чачэнскіх вёсак.

На працягу вечара 26-га і ночы на 27 красавіка арыштаваны многія актывісты беларускіх арганізацый і простыя грамадзяне-беларусы і нават дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Павел Знавец. Схоплены таксама старшыня камісіі па правах чалавека Вярхоўнай Рады Украіны пан Юрый Тыма. Паранена больш за 100 чалавек. Інтэрніравана толькі з кіраўніцтва БНФ 29 чалавек і каля 200 простых беларускіх грамадзян.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# Семінар палітыкаў XXI стагоддзя

Семінар адкрыўся 19 красавіка прывітальным словам арганізатараў да маладых палітыкаў. Галоўным чынам удзельнікі прадстаўлялі сталіцу, хаця былі пасланцы Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Арганізатары спадзяваліся на больш шырокае прадстаўніцтва розных палітычных сіл краіны, але партыі левай арыентацыі, напэўна, палічылі непатрэбным пасылаць на семінар сваіх дэлегатаў, гэта і не дзіўна. Яны практычна і так ужо кіруюць краінай, навошта ім губляць час на марную справу.

Першым слова для даклада ўзяў п.Пётр Садоўскі — адзін з кіраўнікоў праваабарончага Хельсінкскага камітэта, былы пасол Беларусі ў ФРГ. Тэма яго даклада «Імідж Беларусі ў германскіх сродках масавай інфармацыі». На пачатку свайго выступу ён зрабіў невялікі экскурс у гісторыю для больш дакладнага ўяўлення, якім чынам складаўся імідж нашай краіны і тых стэрэатыпы, якія пануюць сёння ў свядомасці немцаў адносна Беларусі. Прыкладна з канца XVI ст. на Беларусі пачалася трансфармацыя жыццёвых рэалій у бок маргіналізацыі, што выклікала ў еўрапейскай свядомасці вобраз Беларусі, як маргінальнай геаграфічнай тэрыторыі з раўніннай, рахманай ментальнасцю. Трэба ўзгадаць, што гэта час пасля Люблінскай уніі, калі Вялікае Княства Літоўскае пачало паступова траціць сваю незалежнасць і адметнасць. Пасля была расійская акупацыя, якая вырвала Беларусь на два стагоддзі з кантэксту еўрапейскай гісторыі. Усё гэта спрычынілася да таго, што да сённяшняга дня Беларусь застаецца, з большага, невядомай для Еўропы.

Зараз вялікую шкоду станоўчаму іміджу краіны наносяць яе сучасныя ўлады, сваімі непаслядоўнымі крокамі ў эканоміцы і палітыцы. Адсюль нежаданне і страх немцаў інвесціраваць свае капіталы ў нашу эканоміку.

Апошнім часам пашыраюцца шматлікія калектыўныя і асабістыя кантакты паміж Беларуссю і Германіяй у межах чарнобыльскіх праграмаў і гуманітарнага супрацоўніцтва. Гэта стварае ў Германіі надзвычай суб'ектыўны характар іміджавых ацэнак Беларусі дзякуючы масавасці гэтага руху.

Найбольш аб'ектыўнымі крыніцамі інфармацыі пра Беларусь у Германіі з'яўляюцца пасольства ФРГ у Беларусі, перыядычныя агляды-выпускі цэнтраў эканамічных і палітычных даследаванняў у Кёльне, Гамбургу, Халле і Берліне. Робяцца заказныя даследаванні газетай «Frankfurter Allgemeine Zaitung», даследаванні германскіх банкаў і інфармацыя турыстычных фірмаў.

З'явіліся беларускія асяродкі ў розных гарадах Германіі. У першую чаргу гэта беларускі музей г.Ляймэн, які заснаваў эмігрант з Беларусі п.Юрый Папко, і «Беларускі архіў» у бібліятэцы г.Гамбурга, дзе сабрана шмат дакументаў і публікацый пра Беларусь. Таксама інфармацыя пра Беларусь утрымліваецца ў бібліятэках і розных асяродках культурнага супрацоўніцтва Бона, Берліна, Карлсруэ, Хэртэна, Лейпцыга, Кёльна, Нінбурга і іншых гарадоў.

На семінары выступіў дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны прафесар Адам Мальдзіс з дакладам «Беларусь як terra incognita». Ён, у прыватнасці, сказаў: «Беларускі народ мае даўнюю і багатую гісторыю і культуру. Мае значныя матэрыяльныя і духоўныя здабыткі, якія маюць агульнаеўрапейскае значэнне (літаратура, кнігадрукаванне, выяўленчае мастацтва). Але тым не менш гэтыя здабыткі недастаткова вядомы ў свеце. Для замежнага масавага чытача і нават спецыялістаў Беларусь часцей за ўсё выступае як terra incognita. (На адным з сімпозіумаў навуковец з Харватыі, якая спецыялізуецца на гісторыі і культуры славянскіх народаў, са здзіўленнем запытала, дзе знаходзіцца Беларусь.)

Такое няведанне мае шэраг прычын. Па-першае, беларусы выступалі ў гісторыі пад «іншым» імем (русіны, ліцвіны), што часта дае магчымасць нашы здабыткі лёгка далучыць да іншай (суседняй) культуры. Падругое, тэрыторыя Беларусі звычайна ўваходзіла ў склад іншых (у некаторых выпадках — супольных) дзяржаўных утварэнняў (Кіеўская Русь, Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітая, Расійская імперыя, Савецкі Саюз). Гэта вяло да нівеліравання адметных рыс і дэнацыяналізацыі народа. Па-трэцяе, Беларусь знаходзіцца на пагранічча двух вялікіх макрарэгіёнаў: праваслаўна-бізантыйскага і каталіцка-лацінскага, усходнееўрапейскага і цэнтральна-заходнееўрапейскага. Гэта прыдало гісторыі і культуры Беларусі поліканфесійны, полікультурны і палілінгвістычны характар. Адбыўся сінтэз, дзе асобныя з'явы з цяжкасцю паддаюцца адназначнай ідэнтыфікацыі.

Урэшце Беларусь спазнілася ў сваім нацыянальным развіцці. У ёй цяпер адбываюцца працэсы, якія ў Еўропе адбыліся ў XIX ст. Адсюль неразуменне, нецікавасць ці нават асуджэнне з боку многіх людзей працэсу нацыянальнага адраджэння.

І тым не менш, у еўрапейскім і сусветным беларусазнаўстве ёсць значныя напрацоўкі. У Польшчы, Германіі, Францыі, Англіі, ЗША з'явіліся беларусазнаўчыя манаграфіі і перыядычныя выданні. Цэнтр Ф.Скарыны выдае і дасылае ў навуковыя беларусазнаўчыя асяродкі свету свой часопіс «Кантакты і дыялогі».

У існуючай парадаксальнай сітуацыі беларускім урадам, грамадскасцю, палітыкамі і вучонымі іншых краін павінны прымацца радыкальныя меры (доступ да СМІ, стварэнне і падключэнне да інфармацыйных сістэм, даследаванне праблемы «прысутнасць беларускай культуры ў свеце», падрыхтоўка зацікаўленых спецыялістаў-беларусазнаўцаў у іншых краінах і г.д.)».

З двума дакладамі «Цэнтральныя пытанні сучаснай сусветнай палітыкі» і «Палітычная этыка і парламенцкая дэмакратыя» выступіў доктар Курт Кляйн з Германіі, былы эксперт НАТО па палітычных пытаннях, які доўгі час працаваў у краінах трэцяга свету.

Ён сказаў, што пасля распаду т.зв. сацыялістычнага лагера і заканчэння канфрантацыі паміж Захадам і Усходам канфлікт перайшоў у плоскасць канфрантацыі паміж краінамі т.зв. трэцяга свету і развітымі краінамі Захаду. У гэтых надзвычай бедных краінах каля 1,5 млрд. чалавек пакутуе ад голаду, мільёны пакідаюць сваю радзіму, шукаючы прытулку ў Заходняй Еўропе і ЗША. Там назіраецца і жахлівае экалагічнае становішча, вялікая дзіцячая смяротнасць і малая сярэдняя працягласць жыцця. Заходнія краіны спачатку зрабілі стаўку на гуманітарную дапамогу гэтым краінам, але яна не дала жаданага выніку. Цяпер развітыя краіны пераходзяць да эканамічнай дапамогі і інвестыцый. Асаблівая ўвага надаецца мусульманскім краінам. Мусульманскія каштоўнасці і светапогляд не прымае нормаў заходняй дэмакратыі. Правы чалавека ў гэтых краінах лічацца домыслам заходніх імперыялістаў. Іслам разумее толькі прыроднае права, і ў свой час СССР вельмі ўдала выкарыстоўваў мусульманскія краіны ў сваёй барацьбе супраць Захаду. І таму заходнімі палітыкамі зараз прыкладаецца максімум намаганняў, каб наладзіць дыялог з краінамі Блізкага Усходу і Цэнтральнай Азіі. Як адзначыў д-р Кляйн, важнае значэнне для Захаду мае супрацоўніцтва і дапамога з постсацыялістычнымі краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У першую чаргу, гэта ўкладанне сродкаў у эканоміку гэтых краін, а таксама палітычнае і ваеннае супрацоўніцтва ў рамках НАТО.

У сваім другім дакладзе д-р Кляйн закрануў тыя прынцыпы свабоды, на якіх базуецца парламенцкая дэмакратыя. І тут перад Беларуссю стаіць задача выпрацоўкі добрага дэмакратычнага заканадаўства, выхавання ў народа каштоўнасцяў дэмакратыі і тых прыярытэтаў, якімі павінна кіравацца грамадства на шляху да свабоды. Вялікае месца ў сістэме дэмакратычных каштоўнасцяў займае нацыянальная свядомасць і традыцыі, што вельмі актуальна для цяперашняга беларускага становішча.

З цікавасцю заслухалі ўдзельнікі семінара даклад першага сакратара пасольства ЗША ў Беларусі п.Джэнет Дзэмірэй на тэму: «Водгук Амерыкі на чарнобыльскую трагедыю: гуманітарная дапамога Беларусі». Як толькі з'явілася дакладная інфармацыя пра аварыю, амерыканскія грамадзяне і дзяржаўныя ўстановы прапанавалі сваю дапамогу пацярпелым. Амерыканскія медыкі і спецыялісты па ядзернай бяспецы наладзілі супрацоўніцтва са сваімі калегамі тут. Да верасня 1995 г. ЗША далі Беларусі гуманітарную дапамогу на суму 73 800 000 долараў. Большая частка гэтай дапамогі была накіравана ў найбольш пацярпелыя раёны.

Пры ўдзеле ўрада ЗША быў арганізаваны шэраг навуковых канферэнцый па Чарнобылі, напрыклад, у мінулым месяцы праведзена канферэнцыя разам з Міністэрствам аховы здароўя. Наладжана трывалае супрацоўніцтва паміж дзіцячым шпіталем Пітсбурга і трыма медыцынскімі ўстановамі Менска. Таксама наладжана супрацоўніцтва ў гуманітарнай сферы.

ЗША дапамагалі Беларусі ў правядзенні рыначных рэформаў праз Міжнародны валютны фонд, Сусветны банк і іншыя фінансавыя арганізацыі. На жаль, апошнім часам тэмп эканамічных рэформаў у Беларусі запаволіўся, і гэта можа прынесці вялікія страты. Ва ўяўленні амерыканцаў зараз складаецца не вельмі прываблівы вобраз Беларусі. На гэта паўплывалі такія падзеі, як знішчэнне паветранага шара, у выніку чаго загінулі двое амерыканцаў.

Палітыка ЗША ў адносінах да Беларусі зыходзіць з зацікаўленасці і правядзення Беларуссю рыначных рэформаў і пабудовы адкрытага дэмакратычнага грамадства, у чым пасольства ЗША і будзе пераконваць беларускія ўлады.

Вельмі цікавымі і змястоўнымі былі выступленні п.Валерыя Шаблюка (БХДП) на тэму: «Пяцігадовы шлях назад ад Рэспублікі Беларусь да ССР», у якім дакладчык вельмі ўважліва прааналізаваў палітычныя падзеі ад часу атрымання Беларуссю незалежнасці і ўказаў на тыя памылкі, якія прывялі да сённяшняга становішча фактычнай страты незалежнасці. І даклад п.Андрэя Кіштымава з Інстытута гісторыі АН Беларусі «Палітычная піраміда канца XX ст.: ад вяршыні да асновы», у якім ён раскрыў свае погляды на аднаўленне спектра эканамічных, палітычных і культурных рэалій на постсавецкай прасторы, праблему прэзідэнцкай улады ў Беларусі і параўнаў яе з праблемамі прэзідэнцкіх рэжымаў у краінах былога СССР і Цэнтральнай Еўропы.

Удзел жанчын у палітыцы асвятліла ў дакладзе «Міжнародны жаночы рух і Беларусь» п.Людміла Пеціна (БХДП), а з дакладам «Чарнобыльская катастрофа — трагедыя жанчын Беларусі» выступіла Алена Шацько (партыя жанчын «Надзея»).

Маладыя палітыкі задавалі шмат пытанняў выступоўцам, часам вельмі вострых і актуальных. Вельмі актыўна выступалі ў дыскусіях на розныя тэмы маладыя дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Павел Знавец, сябры Беларускай партыі Свабоды Сяргей Высоцкі і Павел Карназыцкі, а таксама маладыя прадстаўнік СС «Белая Русь».

У канцы работы семінара маладымі палітыкамі былі выказаны заўвагі і пажаданні арганізатарам і ўвядучаму семінара п.Шаўчуку адносна правядзення наступных рабочых сустрэч маладых палітыкаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

***У газетах***

# Спачатку было слова

Ранішняя электрычка. Вагон па-вясноваму расквечаны сонечнымі блікамі. Насупраць мяне маладая маці з дачкой гадоў сямі адгадваюць у часопісе «Вясёлка» крыжаванку. Пэўна, я не адразу б прыслухаўся да іхняе размовы, каб не адна рэч: дзяўчо намагалася (і па ўсім было бачна, што гэта давала ёй задавальненне) гаварыць на «матчынай мове», маці ж воліла гутарыць навокал крыжаванкі на мове «старэйшага брата». Напэўна, каб не тая «чересполосица», я наўрад ці наважыўся б на тое, каб укліміцца ў размову маіх сімпатычных спадарожніц. А так як усім вядома, што цікавасць — не загана, то я запытаўся ў маладой маці, што замінае ёй напоўніцу падтрымваць у дачкі цікаўнасць да роднай мовы. «Нічога, — адказала яна. І дадала: — Не мова ў гэтым жыцці галоўнае. Яна не накорміць...»

Колькі ж разоў мне даводзілася чуць нешта падобнае! Пасля чаго зноў і зноў канстатуеш, што дужа моцна намовілі нашым людзям тыя пастулат бальшавіцкія ідэолагі, якія яшчэ надаўна стваралі «новую гістарычную супольнасць людзей — савецкі народ». Падобна на тое, што эксперымент ім усё ж такі ўдаўся, ва ўсякім разе, тут у нас, у Беларусі. Мова не накорміць? То згадайма ж біблейскае — спачатку было слова. Азірнемся наўкол: з чаго пачыналі многія з нашых суседзяў? З таго ж слова! Бо там, дзе трыумфуе роднае слова, трыумфуе нацыянальная ідэя, расце нацыянальная самасвядомасць, здольная з'яднаць народ, вывесці яго на шлях прагрэсу. Пра што і сведчыць практыка краінаў Заходняй Еўропы. Кажуць, яны, маўляў, яднаюцца. Так, створаны Еўрапейскі саюз. Але якая з краінаў, што ў яго ўваходзяць, уступіла б свой суверэнітэт, культуру, мову? Там жа ніхто й не думаў ствараць, прыкладам, «новую гістарычную супольнасць людзей — еўрапейскі народ». А што датычыць прасцягаў СНД, дык тут блукае здань Расійскае імперыі. Пра што ў чарговы раз нагадала нядаўняя дэнансацыя Дзяржаўнай думай Расіі белавежскіх пагадненняў.

**Аляксандр КІЙРАНЕН.**
Газета «Здаровы сэнс».

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, рэдакцыя газеты «Наша слова» выказваюць глыбокае спачуванне першаму сакратару ТБМ імя Ф.Скарыны Кузьміч Вользе Аляксандраўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю бацькі.

## «Супольнасць» ладзіць сустрэчу

Раней «Наша слова» ўжо паведамляла пра стварэнне ў Менску Цэнтра адкрытага грамадства «Супольнасць», заснаванага з мэтаю падтрымкі беларускіх няўрадавых арганізацый. Нядаўна Цэнтрам была наладжана першая з яго акцый — семінар «Роля няўрадавых арганізацый у грамадстве: праблемы і перспектывы», які адбыўся ў Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры. Удзельнікамі семінара сталі Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Злучанага Каралеўства Вялікай Брытаніі і Паўночнай Ірландыі ў Беларусі Джэсіка Пірс, дырэктар Валійскай Рады самадзейных акцыяў Грэхэм Бэнфілд (Вялікая Брытанія), дарадчык няўрадавых арганізацый Стэфан Мнішко (Вялікая Брытанія), супрацоўнік Інстытута на карысць дэмакратыі ва Усходняй Еўропе Павел Казанецкі (Польшча), прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў «Стары горад» (Брэст), «Талака» і «Задзіночанне беларускіх студэнтаў» (Гомель), «Машэка» (Магілёў), Таварыства беларускай мовы, арганізацыі «Аб'яднаны шлях» (Менск) ды іншых.

Удзельнікамі канферэнцыі абмяркоўваліся досвед тварэння грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, Польшчы і Вялікай Брытаніі, спецыфіка існавання грамадскіх арганізацый у нашай краіне, магчымасць утварэння сеткі няўрадавых арганізацый і іх супрацоўніцтва, арганізацыйная і каардынацыйная роля Цэнтра «Супольнасць» у гэтай справе, магчымасць заснавання друкаванага бюлетэня няўрадавых арганізацый Беларусі.

**У.П.**

## Што ў архівах свету ёсць пра Беларусь?

25 красавіка ў сталіцы прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя «Замежная архіўная беларусіка», арганізатарамі якой былі Камітэт па архівах і справаводству, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы, Беларуская асацыяцыя клубаў UNESCO, Беларуская асацыяцыя гісторыкаў, гістарычны факультэт БДУ, часопіс «Беларуская мінуўшчына», а фундатарамі — UNESCO і фірма «Дайнова». Праца канферэнцыі адбывалася ў трох секцыях: «Праблемы выяўлення і выкарыстання замежнай архіўнай беларусікі», «Крыніцы па гісторыі Беларусі ў замежных зборах», «Беларусіка ў архівах і бібліятэках Расіі».

Канферэнцыя была адметная ўжо тым, што падобных сустрэч навукоўцаў у гісторыі ні БССР, ні цяперашняй Беларусі не было. Мэтаю яе стаў збор звестак аб архівах свету, у якіх знаходзяцца дакументы гісторыі нашага краю. Лёс Беларусі склаўся так, што сёння яе архівы раскіданыя па ўсім свеце. Яны ёсць у Аўстраліі, Вялікай Брытаніі, Чэхіі, Летуве, Злучаных Штатах, Швецыі, Украіне, Польшчы, Расіі і мностве іншых краін. Буйнейшыя зборы дакументаў знаходзяцца ў Санкт-Пецярбургу, Маскве, Вільні, Кіеве, Львове, Варшаве. Дакументы вывозіла кожная новая акупацыйная ўлада: французская — у 1812 годзе, нямецкая — у час I і II сусветных войнаў, савецкая — увесь час свайго існавання. Свае архівы стварыла мноства беларускіх эміграцкіх асяродкаў. Таму, каб атрымаць аб'ектыўныя звесткі з гісторыі нашага народа, сёння патрэбна іх вывучэнне, а перад тым — складанне спісу гэтых дакументаў, раскіданых па ўсім свеце.

— Што можа даць навукоўцам вывучэнне замежных архіваў? — з гэтым пытаннем карэспандэнт «Нашага слова» звярнуўся да аднаго з арганізатараў канферэнцыі, дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы доктара гістарычных навук, прафесара Уладзіміра Міхнюка, на што атрымаў адказ:

— Кажучы абагульнена, гісторыя Беларусі дагэтуль пісалася альбо з пункту гледжання Варшавы, альбо Масквы — нашых моцных суседзяў, для якіх наш край быў тэрыторыяй, дзе перасякаліся сферы іх уплыву. Трактоўку гістарычных падзеяў рабілі не гісторыкі, а палітыкі. Вось прыклад: Рыжскі мірны дагавор 1921 года лічыцца расійскім бокам выдатным дасягненнем замежнай палітыкі Савецкай Расіі, а польскім — не менш значным поспехам польскіх палітыкаў. Але, гледзячы на гэтыя падзеі з Менску, мы бачым, што гэты пакт падзяліў наш край паміж Польшчай і СССР і стаў мінай, якая выбухнула ў верасні 1939 года.

Гісторыя заўсёды перапісвалася палітыкамі, так было яшчэ ў часы Герадота. Але сёння мы павінны зразумець: гістарычная свядомасць ёсць галоўным чыннікам развіцця грамадства. Народ, які мае глыбокія і моцныя гістарычныя карані, не загіне. Таму сёння гісторыя Беларусі мае пісацца ў Менску і прадстаўляць пункт гледжання беларускага народа і створанай ім дзяржавы.

На жаль, усіх вызначаных мэтаў канферэнцыя не дасягнула. Да ўдзелу ў ёй былі запрошаны навукоўцы з Канады, ЗША, Англіі, Германіі, Украіны, Летувы, Латвіі, Эстоніі, Расіі, але з розных прычын далёка не ўсе яны сабраліся ў Менску. Але, нягледзячы на гэта, справа збірання нашай гістарычнай спадчыны працягваецца. У планах арганізатараў канферэнцыі — правядзенне другой нарады навукоўцаў свету, якая працягне справу першай.

**У.П.**

## Піша «Царкоўны пасланец»

Рэдакцыі кожнай газеты прыемна ведаць, што чытачы не засталіся абыякавымі да нейкай публікацыі, што яна выклікала дыскусію і нават спрэчкі. Здарылася гэта і з «Нашым словам». Невялічкі артыкул «Царкоўны пасланец» з нумара 47 за 1995 год — агляд У.Панадам выдаванага беларускімі эмігрантамі ў ЗША часопіса з гэткай назвай — выклікаў у яго выдаўцоў надзвычай бурную рэакцыю. У велікодным сёлетнім нумары «Царкоўнага пасланца» пад загалоўкам «Да нас і праз нас пішуць» надрукавана наступнае:

«Затое летась у газэце «Наша слова» 22-га лістапада з'явіўся артыкул У.Панады «Царкоўны Пасланец», зьмест і тон якога йнакш як за наварат да журналісцкае практыкі нядаўна мінулых год палічыць нельга.

Зачапіўшыся за некаторыя мейсцы, а нат і сказы з пары артыкулаў У.Панада яшчэ добра памятнай з савецкіх часоў пагромнай мовай бэсьціць «Царкоўнага Пасланца», БАПЦ ды Ейнага Першагераха разам зь вернікамі.

Калі-б гэты плод нянавісьці зьвіўся ў чорнасоценнай ці бальшавіцкай газэце, дык на яго й нявартa было-б зварочваць увагі, але на бачынах воргану Таварыства Беларускае Мовы, што, здавалася-б, павінна спрыяць дзяржаўным і царкоўным незалежніцкім імкненьням, ён можа зьбянтэжыць і падмануць людзей, якія шукаюць праўды.

З увагі на гэта Рэдакцыйная Калегія «Царкоўнага Пасланца» ськіравала рэдактару «Нашага слова» сп. Э.Ялугіну ліста з запярэчаньнямі на беспадстаўныя зьвінавачаньні з боку сп.У.Панады ды з выясьненьнем нутраное сытуацыі БАПЦ і ролі, якую Яна імкнецца займець у рэлігійным жыцьці Беларусі.

Копіі гэтага ліста былі высланыя ў рэдакцыі краёвых газэтаў незалежніцкага кірунку.

Нельга яшчэ ня ўспомніць, што рэдакцыя газэты «Беларус» (н-р 430, сьнежань 1995) гэтак упадабала гнюсьбу сп. У.Панады, што замест, як наказвала-б журналісцкая павага, урэшт напісаць собскую зацемку праз «Царкоўнага Пасланца», яна на рэцэнзыю аб нашым выданьні выхапіла зь пісаніны гэтага аўтара небясьпечныя нам, на ейную думку, а ўзапраўднасьці бязглуздыя радкі праз «...імкненьне аднаго з лідэраў расколатай БАПЦ знайсьці падтрымку ў Беларусі, карыстаючыся дзеля гэтага аргумэнтамі зусім не рэлігійнымі».

Што-ж, ня першы раз даводзіцца дзівавацца па чым баку дзе-якія нашыя змагары змагаюцца?!»

Што варта да гэтага дадаць? Найперш, асабістую падзяку супрацоўніка «Нашага слова» У.Панады в/а рэдактара «Царкоўнага пасланца» Б.Данілюку за звесткі аб гісторыі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы і перапрашэнне за фактаграфічную памылку: БАПЦ сапраўды была створана беларускімі эмігрантамі не ў ЗША, а ў Германіі, ды, апошняе, шкадаванне з тае прычыны, што як змест, так і надзвычай вялікі памер ліста, дасланага на адрас «Нашага слова» Б.Данілюком, не дазваляе надрукаваць яго ў газеце цалкам, без скарачэнняў.

Што ж датычыць адмоўнага стаўлення У.Панады да спробаў злучэння справаў веры, нацыянальнасці і палітыкі, дык варта нагадаць выдаўцам «Царкоўнага пасланца»: яны з'яўляюцца грамадзянамі краіны, жыхары якой называюць сябе амерыканцамі незалежна ад веравызнання. Амерыканскі народ, як, дарэчы, і беларускі, сфармавала адзіная тэрыторыя, гісторыя і мова, а не прыналежнасць да тае ці іншае Царквы. Імкненне ж павялічыць колькасць хрысціянскіх цэркваў яшчэ на адну — прыватная справа грамадзян ЗША. Але ці хаця б адзін кананічны тэкст хрысціянства абгрунтоўвае неабходнасць гэтага?

### У суседзяў

## Чачня: забіты прэзідэнт Джахар Дудаеў

Усе вядучыя інфармацыйныя агенцтвы свету паведамілі пра забойства прэзідэнта Рэспублікі Ічкерыя (Чачні) Джахара Дудаева. Маскоўскае тэлебачанне дэманструе радасныя ўсмешкі на тварах расійскіх генералаў. Яшчэ б: іх самы галоўны вораг, як яны лічаць, чалавек, які змог арганізаваць сілы нацыянальнага вызвольнага руху невялікага народа ў баявыя дружыны, здолеўшыя эфектыўна супрацьстаяць вось ужо амаль паўтара года гіганцкай расійскай арміі, знішчаны. Нават яго ныя апаненты, падкрэсліваючы складаны характар гэтага таленавітага генерала, на законнай падставе абранага прэзідэнта Чачні, сведчаць, што ён не быў тэрарыстам, мала таго — імкнуўся стрымліваць ад такіх дзеянняў сваіх паплечнікаў.

Парадокс у тым, што супраць яго самога ўжылі метад вытанчанага тэрору. Варварства заключаецца і ў часе, калі гэта было зроблена: высокія расійскія ўрадавыя чыноўнікі пачалі з Дудаевым як быццам перамовы аб спыненні баявых дзеянняў. Прэзідэнта Чачні выклікалі да спадарожнікавага тэлефона, нехта з тых, каму Дудаеў у расійскім кіраўніцтве давараў, «загаворваў яму зубы» да таго часу, пакуль спецслужбы, у чым пераканаyныя аўтарытэтныя спецыялісты, праз спадарожнік не запеленгавалі месца, дзе быў устаноўлены тэлефон, і запусцілі туды ракеты. Выходзіць, праўду казалі тыя паплечнікі Дудаева, якія выказваліся супраць яго ных кантактаў з расійскім кіраўніцтвам да часу, пакуль чужая армія не пакіне Чачню. Прэзідэнт Дудаеў паверыў, што можна весці перамовы з д'яблам, кажучы цяпер яны, а за імі і шмат хто з шэраговых чачэнцаў. А гэта значыць, што Расія прайграла. Бліц-перамогі зноў не атрымалася. Дабавілася недаверу і прагі помсты паміж народамі.

Значыць, вайна з чачэнскім народам будзе не толькі працягвацца, а хутчэй за ўсё стане і больш жорсткай і жудаснай. Хаця, здаецца, куды ўжо жахлівей. Цяпер Чачню ў свеце называюць вялікай беларускай Хатынню. Ва ўсіх на слыху Самашкі, якія расійскія карнікі вынішчалі ажно двойчы. Нават па афіцыйных дадзеных на іх рахунку 68 забітых дзяцей і жанчын з аднаго сяла. На сценах чачэнскіх хацін вывешаны партрэт галоўнакамандуючага расійскіх ваенна-паветраных сіл генерала Пятра Дзяйнекіна. Журналіст расійскай «Новой газеты» сведчыць, што назіраў такую карціну ў разбомбленым сяле Аршты: з дэпутатам Вярхоўнага Савета Чачні яны зайшлі ў сям'ю, дзе «сокалы» Дзяйнекіна расстралялі ў машыне бацьку, маці і трохгадовую сястрычку 12-гадовага хлапчука, які цяпер застаўся на свеце толькі са старым дзедам. Кожны дзень пасля малітвы хлопчыка падводзяць да партрэта галоўнага лётчыка Расіі і кажуць: «Вось хто пакінуў цябе сіратой. Адпомсці». Пасля бамбёжак сяла Шалашы, дзе ў выніку перабітыя і скалечаныя шмат мірных жыхароў, там аб'яўлена крывавая помста не толькі генералу Дзяйнекіну, але і астатнім лётчыкам. Калі расійскія войскі знішчаць апошнія раёны нацыянальнага супраціўлення, чачэнцы будуць адшукваць расійскіх афіцэраў, асабліва лётчыкаў і артылерыстаў паўсюдна, будуць помсціць іх сем'ям. Гэта можа доўжыцца яшчэ многія гады, кажучы тыя, хто ведае характар чачэнцаў.

А для суседзяў страшны ўрок: гора таму, хто акажацца ў цесных абдымках расійскіх імперцаў, якія на войнах з малымі народамі, на чужой смерці і бядзе здавён прывыклі нажывацца, што зараз і адбываецца ў Чачні. «Каму вайна, а каму маці радна, — піша карэспандэнт расійскай «Новой газеты», нагледзеўшыся тых жахаў. — У чачэнскім вогнішчы без следу згараюць не толькі бюджэтныя грошы. У дыме пажарышчаў лягчэй не толькі хаваць канцы розных афёр... Колькі патронаў, снарадаў, бомбаў, рознай вайсковай маёмасці можна спісаць на Чачню? У спрытных, вопытных руках гэта ж сапраўдны зладзейскі Кландайк. Любы начальнік азалаціцца можа. Асабліва, калі не адзін хапаць будзе, а дзяліцца з мафіяй. А з ёй у майстроў бамбёжак і «зачыстак» даўнія нефармальныя сувязі».

А лічыцца, што расійскія генералы наводзяць «канстытуцыйны парадак» і ўмацоўваюць дружбу братніх народаў...

**Ул.Ас.**

